# Слава Вялікаму Кастрычніку — які адкрыў новую эру!

„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr.

# Ніва

№ 44 (88) БЕЛАСТОК, 3 ЛІСТАПАДА 1957 г. ГОД II



*Леніна праслаўляюць усе народы. На здымку: помнік Леніну ў Мінску.*

МАКСІМ ТАНК

## На камні, жалезе і золаце

Пакуль не ступілася джала разца
І рукі ад працы не зморацца,
Я мушу пакінуць адбітак жыцця
На камні, жалезе і золаце.

На камні — няволі мінуўшыя дні,
Курганы ў палях адзінокія;
На цвёрдым жалезе — акопы вайны,
Разбітыя сосны высокія;

На золаце — ўзняты Кастрычніка
Прасторы бязмежныя, ясныя,
Да сонца шырокі пралсжаны шлях,
Багатыя нівы калгасныя;

На золаце — свята краіны маёй
З сябрамі, сяброўкамі ўдалымі,
З салютамі і незгасальнай зарой,
З гармонікамі і цымбаламі!




*Незвычайных рэзультатаў дабілася совецкая навука. Масква сталася цэнтрам сусветнай навукі і культуры.*



*У сталіцы СССР налічваецца — каля тысячы бібліятэк. У іх захоўваецца больш чым 50 мільёнаў кніг — столькі, колькі ва ўсіх буйнейшых публічных бібліятэках Англіі. Францыі, ЗША і Італіі, разам узятых.*



*За 1954—1956 год у СССР было асвоена 35 мільёнаў 500 тысяч гектараў цалінных і абложных зямель. Гэта значыць, што Совецкая краіна толькі за тры гады атрымала новыя пасяўныя плошчы, большыя, чым плошчы зернавых у Францыі, Італіі, Заходняй Нямеччыны, Аўстрыі, Бельгіі, Даніі, Галандыі, Гішпаніі і Швецыі, разам узятых.*









*Кіеў, Баку, Харкаў, Горкі, Свярдлоўск, Чэлябінск... уявіце сабе, што ўсе гэты аграмадныя сучасныя гарады злучаюцца сумесна. Вось такі горад — велікан з агульнай жылёвай плошчай у 36 мільёнаў квадратных метраў выйдзе, калі сабраць усе новыя будынкі, пабудаваныя ў СССР толькі за адзін мінулы год.*

### Сёння ў нумары:





# Чырвоны бронепоезд

Многа чаго прыйшлося пеpажыць Максіму Панасюку. Шмат свету давялося пабачыць. Жыццё яго адлюстроўвае вельмі цікавую частку гісторыі.

Першая сусветная вайна застала яго як артылерыста, ефрэйтара царскай арміі ў Брэсцкай крэпасці.

Незадоўга, часць у якой быў Максім Панасюк атрымала загад выехаць бронепоездам да аўстрыйскай граніцы: Сасновец, Кельцы, Скаржыска, Радом, Люблін — гэта гарады дзе неаднойчы даводзілася Панасюку за цара-бацюшкі падстаўляць сваю сялянскую галаву пад нямецкія кулі. Прыйшлося аддаць немцам і Брэсцкую крэпасць, адступіць аж пад Ковель.

Тут у 1916 годзе, у франтавых акопах Панасюк упершыню пазнаёміўся з салдатамі камуністамі і зразумеў што гэта за вайна і ў чыей справе яна вядзецца. Разам з іншымі рускімі салдатамі ўдзельнічае ў братанні з нямецкімі салдатамі такімі-ж як і ён працоўнымі людзьмі.

З-пад Ковеля бронепоезд, у якім Панасюк быў артылерыстам, накіравана на румынскі фронт у Румынію. З Румыніі прышлося адступіць да Одэсы. Тут у 1917 годзе ефрэйтар Панасюк сустрэў рэвалюцыю. Бронепоезд у першых-жа днях перайшоў на яе бок і верны быў да канца.

У Одэсе Панасюку давялося паваяваць з гайдамакамі.

Гайдацкія недабіткі ў перапалоху ўцякалі ў стэп.

Па разгроме гайдамакаў чырвоны бронепоезд накіравана аж у Латвію пад Рыгу, зноў на нямецкі фронт.

Немцы лезлі ў глыб Расіі. Цяжка з імі было змагацца маладой, толькі што стаўшай на ногі Чырвонай Арміі. Чырвоны бронепоезд прымушаны быў адступіць аж пад Пскоў.




*Плакат выпушчаны ўперыяд абароны Петраграда.*

Незадоўга быў заключаны Брэсцкі дагавор. Канец вайны.

— Аднак для нас, — успамінае Панасюк — быў гэта пачатак вайны, пачатак барацьбы з контррэволюцыяй.

На Пецербург надыходзіла чорная хмара Юдзеніча. Сталіца рэволюцыі была ў небяспецы. Чырвоны бронепоезд быў накіраваны ў дапамогу Пуцілаўскім рабочым.

Пасля разгрому Юдзеніча не прышлося доўга адпачываць байцам чырвонага бронепоезда. З Сібіры, сабраўшы контррэволюцыйныя сілы, успамаганы капіталістычнымі дзяржавамі, набліжаўся Калчак. Чырвоны бронепоезд накіравана на Урал, супроць Калчака. Пад'ехаў пад Іжэўск. Тут, асабліва каля Іжэўскага зброевага завода была вялікая групіроўка белых. Байцы бронепоезда атрымалі загад выбіць белых з зброевага завода. Бронепоезд крануў на завод. Пасля цяжкага бою аружэйны завод быў ўзяты чырвонымі. Іжэўск вызвалена. Аднак Калчак яшчэ не быў разбіты. Ен падрыхтоўваў контррэволюцыйныя сілы да рашаючай атакі.

Сілы чырвоных нажаль былі невялікія пад Іжэўскам. Вялікі голад, тыф, моцна давалі знаць аб сабе байцам рэволюцыі. Пад ударамі Калчака яны вымушаны былі пакінуць Іжэўск і адступіць да Казані. Бронепоезд адступіў аж да ракі Вяткі і прыняў абаронную пазіцыю на станцыі Вяцкія Паляны. Было вельмі цяжка. Хвароба і голад сеялі ў радах байцоў паніку, дэзарыентацыю. А Калчак націскаў.

— Ужо здавалася, — успамінае Панасюк, — што ўсё заваліцца, нявытрымаем.

Менавіта тады прыехаў да нас таварыш Ленін. Вестка аб гэтым маланкай пранеслася па эшалонах. Салдаты сыпнулі з вагонаў.

— Ленін выступіць з прамовай! — няслося па радах салдатаў.

Я ўбачыў як паміж салдатамі, ветліва ўсміхаючыся, крочыў чалавек невялікага росту ў падношаным паліто і рабочай кепцы.

Гэта быў Ленін!

Узабраўшыся на вагон Ленін выступіў з палымянай прамовай. У радах салдат нібы макам пасеяў. Усе сціхлі — кожны стараўся не прапусціць ніводнага слова.

— Таварышы! — гаварыў Ленін, — далей адступаць няма куды...

Доўга гаварыў таварыш Ленін. Словы яго, улівалі нейкую незвычайную моц у салдатаў-рэволюцыянераў.

Калі скончыў — салдаты знялі яго з вагона і панеслі на руках.

— З намі Ленін, крычалі вакол, разаб'ем калчакаўскую нечысць!

А Ленін прахадзіў ад эшалона да эшалона, гутарыў з салдатамі. Вось ён зайшоў у наш бронепоезд. Пачаў распытываць пра нашае жыццё, сямейныя справы. Узяў з рук майго сябра абсмалены салдацкі кацялок і паспрабаваў салдацкай стравы.

У салдатаў уступіў нейкі вялікі энтузіязм.

Незадоўга прышло падмацаванне і мы нанеслі Калчаку рашаючы контрудар.

Пагналі яго аж да Пермі і тут прыкончылі.

Чырвоны бронепоезд пад палымяным сцягам рэволюцыі вяртаўся назад пераможцай.

Максім Панасюк жыве цяпер у Бельску. Ен мае ўжо 70 год. Аднак, калі ўспамінае рэволюцыйныя падзеі, вочы яго нейк бліщчаць, а ўся постаць набірае вайсковай рэзкасці і маладосці. Асабліва любіць успамінаць Максім Панасюк сустрэчу з таварышам Ленінам.

Гэтай сустрэчы, гаворыць ён, не забудзе да канца свайго жыцця.

В. БАРШЧЭУСКІ

# Рэйд дружбы

*(Размова з палкоўнікам Ул. Шчыгельскім — удзельнікам матацыклёвага Рэйда Варшава — Леніно).*

У сувязі з чатырнаццатай гадавінай гістарычных баёў пад Леніно, у якіх змагалася з гітлераўскімі вайскамі Першая Польская Дывізія імя Тадэуша Касцюшкі супольна з 33 Савецкай Арміяй — ЛПЖ (Ліга Прыяцеляў Жаўнера) у паразумленні з савецкім адпаведнікам ДОСААФ (Добраахвотнае Таварыства Садзейнічання з Арміяй, Авіяцый і Флотам) сарганізавалі матацыклетны Рэйд Варшава — Леніно. У Рэйдзе, які адбыўся ў тэрміне ад 8 да 16 кастрычніка г. г., удзельнічала 30 асоб.

Матацыклетная каманда праехала каля двух тысяч кілометраў. Трудна перадаць у словах уражанні, якія прышлося дазнаць на ўсіх этапах Рэйду — сказаў Ул. Шчыгельскі. Дзе мы толькі не праязджалі, пачынаючы ад абласных гарадоў, а канчаючы на малых мястэчках, пасёлках і вёсках, каманда сустракалася з небывалай сардэчнасцю людзей. На кожным кроку ўдзельнікі Рэйду атрымоўвалі букеты кветак. У шматлікіх размовах адчувалася гордасць беларусаў з вялікіх дасягненняў, а таксама пераканание, што ўсё гэта, што яны будуюць умацоўвае сувязь паміж народамі соцыялістычнага лагера і мір ва ўсім свеце.

У часе сардэчных сяброўскіх сустрэч прадстаўнікі партыі і комсамола ў сваіх выступленнях прыпаміналі аб беларуска - польскіх традыцыях супольнай барацьбы з царызмам, з санацыйнай уладай у Польшчы, а асабліва з нямецкімі акупантамі на беларускай і польскай зямлі.

Цікавыя былі выступленні школьнай моладзі, якая прышла ў Леніна, зложыць кветкі на магілах польскіх воінаў. Вучаніца — Валя Чарнова з вёскі Леніно, член піонерскай арганізацыі злажыла піонерскую прысягу, што так, як дагэтуль, моладзь будзе апекавацца магіламі польскіх воінаў. Яна звярнулася з просьбай навязаць кантакт з якой — небудзь школай у Польшчы каб можна было інфармаваць польскую моладзь, як моладзь Савецкай Беларусі апекуецца магіламі польскіх воінаў, а таксама каб даведацца як польская моладзь дбае аб магілы савецкіх воінаў, паўшых у баях за вызваленне Польшчы. Надзвычай сардэчная сустрэча адбылася з участнікамі баёў пад Леніно — генерал - маёрам Бурлаком — прадстаўніком генеральнага штаба беларускай акругі, а таксама з капітанам рэзервы Я. Цярэхавым.




*Ля помніка ў Леніно.*

Беларускае грамадства, калгаснікі, рабочыя, інтэлігенцыя раёнаў, дзе змагалася польская армія пабудавалі ў знак прызнання і чэсці прыгожы памятнік, на якім віднее надпіс у польскай і беларускай мовах: «Польскім воінам Першай Дывізіі імя Тадэуша Касцюшкі, якія загінулі ў баях з нямецкім фашызмам за свабоду і незалежнасць сваёй радзімы, вечная слава».

Нашая пабыўка на беларускай зямлі, афіцыяльныя і неафіцыяльныя сустрэчы з беларускім насельніцтвам будуць спрыяць умацаванню сардэчнай, трывалай дружбы паміж польскім і беларускім народам — сказаў на заканчэнне нашай размовы палкоўнік Ул. Шчыгельскі.

Размову правёў

ВІКТАР ШВЕД

ВІКТАР ШВЕД

# ВЯЛІКАМУ КАСТРЫЧНІКУ

Кастрычнік — месяц бур і непагод.
Ен гнеўнай хваляй ўсе сарваў затворы,
Да волі зваў прыгнечаны народ
На першы выстрал з крэйсера «Аўроры».

Пайшлі матросы сілай разагнаць
Гняздо буржуяў у Зімнім палацы.
І немагчымасцю было ўстрымаць
Тых, што жадалі міру, хлеба, працы.

Пайшоў ў паход увесь працоўны люд,
Пайшлі сялянскія лапцюжныя калоны,
Каб вызваліць народы з цяжкіх пут,
Каб не было больш гора і прыгону.

Насталі дні вялікіх перамог,
Прайшла нядоля, цяжкі лёс жабрачы.
У далечыню кастрычніцкіх дарог
Глядзім, і шчасце там сваё мы бачым.

Збылося многа дум людскіх і мар
Праменнямі Кастрычніка сагрэтых,
Яго святкуе сёння зямны шар,
А заўтра мо' і іншыя планеты.

# Першы выстрал з „Аўроры"

*Якубу Мартынюку — матросу з «Аўроры».*

Халодныя хвалі Балтыйскага мора
У высокі ўздымаліся вал.
Над берагам Невы стаяла «Аўрора»,
Чакала на першы сігнал.

І вось ўжо раздаўся выстрал з гарматы,
Пранёсся над горадам гук.
У дыме, з рукою да вока паднятай,
Стаяў беларус — Мартынюк.

Глядзеў ён на Зімні і думаў аб долі..
Ці ведаў — здаецца наўрад,
Якую мець будзе ў гісторыі ролю
Той першы сігнальны снарад.

Не ведаў яшчэ, што снарад яго — гэта
Пачатак Кастрычніцкіх дзён,
Што новую эру абвесціць ён свету,
Якая знясе можных трон.

Прайшло многа год, калі быў гальванёрам.
Стары ўжо, і розны меў лёс,
Аднак на ўспамін аб падзеях з «Аўроры»
У ім аджывае матрос.

ВІКТАР ШВЕД

Варшава, кастрычнік 1957 г.

